Міністэрства фінансаў Беларусі: за першую палову 2019 года прафіцыт бюджэту склаў 2 мільярды рублёў.

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

№ 60 (4415)

2 жніўня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

БЛІЦ

*Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына падчас сустрэчы з кіраўніком Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам прапанавала правесці выбары ў Палату прадстаўнікоў 17 лістапада.*

## Ці не абурае дэпутатаў тое, што іх паўнамоцтвы скароцяцца амаль на 10 месяцаў?

**Уладзімір БАЗАНАЎ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы:**

– Хто будзе абурацца рашэннем прэзідэнта? Ён жа прызначае выбары ў парламент, ніякія паўнамоцтвы не перавышаны.

І я з разуменнем стаўлюся да таго, што парламенцкія і прэзідэнцкія выбары вырашылі развесці па часе, бо там жа зусім розныя праграмы і задачы.

**Ганна КАНАПАЦКАЯ, сябра Пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы:**

– У гэтай сітуацыі я не звяртаю ўвагу на тое, што ў тым ліку і мае паўнамоцтвы скараціліся амаль на год. Для мяне прынцыпова тое, што ў дадзеным выпадку адбываецца парушэнне Канстытуцыі, бо там устаноўлены дакладны тэрмін дзейнасці парламента – чатыры гады.

Скарачэнне тэрмінаў паўнамоцтваў прадугледжана ў Асноўным законе, але толькі на пэўных падставах. Зараз такіх падстаў няма. Таму я і кажу, што ў выпадку склікання новага парламента адбудзецца парушэнне Канстытуцыі. Для мяне не аргумент, калі старшыня Цэнтрвыбаркама кажа пра гэтую сітуацыю: “Так склалася”.

**Дзмітрый ШАЎЦОЎ, намеснік старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:**

– Я абсалютна нармальна стаўлюся да гэтай сітуацыі. Няма ніякіх парушэнняў закона ў тым, што тэрмін паўнамоцтваў дэпутатаў скарочаны, і мы гэта добра ведалі.

**Алена АНІСІМ, сябра Пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы і культуры:**

– Сітуацыя склалася не вельмі добрая, ведаю шмат людзей, якія ёй незадаволены. У тым ліку і мае калегі дэпутаты, хаця публічна пра гэта мала хто выказваецца. Але пытанне не столькі ў скарачэнні тэрмінаў паўнамоцтваў парламента. Няма вялікіх падстаў (нестандартнай сітуацыі ці нейкіх парушэнняў з боку парламента) для такога скарачэння. Проста адбылася вузкапалітычная неабходнасць.

Таму вялікага захаплення асабіста ў мяне сітуацыя не выклікае. За гэтыя дзесяць месяцаў я, напрыклад, давяла б справу за стварэнне беларускамоўнага ўніверсітэта да той стадыі, калі б мы ўжо набіралі студэнтаў. Дарэчы, менавіта таму і буду зноў балатавацца ў парламент. Неабходна закончыць справы, якія я распачала.

**Уладзіслаў ШЧЭПАЎ, старшыня Пастаяннай камісіі па эканамічнай палітыцы:**

– Усё праходзіць у суадноснасці з заканадаўствам. Няма нічога страшнага ў тым, што тэрмін дэпутацкіх паўнамоцтваў скарацілі.

**Валерый ВАРАНЕЦКІ, старшыня Пастаяннай камісіі па міжнародных справах:**

– Любое грамадства мае тое, што заслугоўвае, і дабіваецца таго, на што здольна. Калі пытанне тэрміну паўнамоцтваў дэпутатаў не хвалюе грамадства, а значыць, выбаршчыкаў, то ці павінна гэта хваляваць тых, хто абавязаны выконваць іх волю?

**Апытанне праводзіў Алесь СІВЫ.**

БЕЛАРУСЬ–УЗБЕКІСТАН

## Недасяжны мільярд

Пазаўчора і ўчора высокім госцем нашай краіны быў прэзідэнт Узбекістана **Шаўкат Мірзіёеў**. Галоўная тэма перамоў – эканамічнае супрацоўніцтва. На жаль, тут, як кажуць, конь не валяўся. Яшчэ ў 2008 годзе тагачасны віцэ-прэм’ер **Андрэй Кабякоў** заяўляў: «Беларусь і Узбекістан павінны дасягнуць тавараабароту ў 1 мільярд долараў».

Мінаў час, а справы рухаліся вельмі і вельмі марудна. Так, у 2015 годзе тавараабарот паміж краінамі склаў толькі 65 мільёнаў долараў, у 2018-м – менш за 160 мільёнаў.

Так што мільярд «зяленых» для Беларусі і Узбекістана пакуль што недасяжны.

## Шаўкат Мірзіёеў прапанаваў Беларусі выхад на рынак Афганістана

Падчас перамоў Аляксандр Лукашэнка і Шаўкат Мірзіёеў абмеркавалі перспектывы супрацоўніцтва ў межах ЕАЭС. Для нас асаблівую цікавасць выклікае наступная заява ўзбекскага прэзідэнта: «Мы можам прапанаваць ёмкі ўнутраны рынак, а таксама найкарацейшы выхад на выключна перспектыўны рынак Афганістана. Аб’яднаўшы намаганні, Беларусь і Узбекістан маглі б унесці дастойны ўклад у аднаўленне гэтай шматпакутнай краіны».



Фота БЕЛТА

АФІЦЫЙНА

## З 1 жніўня ў Беларусі ўзраслі пенсіі

На падставе рашэння прэзідэнта Беларусі з 1 жніўня ў сярэднім на 6,6 працэнта павялічаны працоўныя пенсіі. Іх сярэдні памер складзе 438 рублёў, пенсіі па ўзросце – 446,1 рубля.

Працэнт павелічэння ў выніку пераразліку ў кожнага пенсіянера будзе залежаць ад індывідуальных параметраў яго стажу работы і велічыні заработку да звароту за пенсіяй, а таксама ўстаноўленых надбавак, павышэнняў і даплат, якія павялічваюцца ўжо на падставе росту БПМ.

Так, з 1 жніўня штомесячная даплата да пенсій непрацуючых пенсіянераў складзе для людзей ва ўзросце 80 гадоў і старэйшым – 57,73 рубля, для людзей ва ўзросце ад 75 да 80 гадоў – 43,3 рубля. Надбаўка для інвалідаў І групы складзе 57,73 рубля, пенсіянераў, якія дасягнулі 80-гадовага ўзросту, – 28, 87 рубля. Таксама ў сувязі з ростам БПМ павышаюцца мінімальныя пенсіі па ўзросце – да 242,88 рубля; сацыяльныя пенсіі назначаюцца пры неатрыманні працоўнай пенсіі): інвалідам І групы, у тым ліку інвалідам з дзяцінства, – да 254 рублёў, інвалідам з дзяцінства ІІ групы – 219,36 рубля, інвалідам ІІ групы (акрамя інвалідаў з дзяцінства), дзецям у выпадку страты карміцеля на кожнае дзіця – 196,27 рубля, інвалідам ІІІ групы – 173,18 рубля, асобам старэйшым за агульнаўстаноўлены пенсіённы ўзрост – 115,46 рубля, дзецям-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў пры рознай ступені страты здароўя – ад 184,73 рубля да 254 рублёў.

Памер пенсіі павысіцца і для іншых катэгорый атрымальнікаў: герояў Беларусі, Савецкага Саюза, Сацыялістычнай Працы, блакаднікаў, былых вязняў фашысцкіх канцлагераў, інвалідаў з дзяцінства па прычыне ранення, кантузіі або калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (або з наступствамі ваенных дзеянняў) і іншага.

А таксама павялічацца сумы дапамог па доглядзе інваліда І групы або асобы, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту, – да 230,91 рубля (у выпадку догляду аднаго такога чалавека) і 277,09 рубля (двух і больш).

(Паводле БЕЛТА.).

МНЕНИЕ



## Александр ЯРОШУК: «Усовершенствовали гильотину»

В Беларуси внесены изменения в Трудовой кодекс. Власти утверждают, что документ пополнился важными гарантиями для работающих, независимые эксперты, наоборот, критикуют нововведения.

Глава Белорусского конгресса демократических профсоюзов (БКДП) **Александр Ярошук** называет новую версию Трудового кодекса Беларуси худшим документом такого рода в мире. По его мнению, новым Трудовым кодексом узаконили «заемный» труд, работников лишили права увольняться по собственному желанию, из Беларуси сделали страну принудительного труда. Мы попросили профсоюзного лидера расшифровать его пессимистические оценки.

**– Александр Ильич, ну что значит нельзя увольняться по собственному желанию? Если человек подписал контракт, он что, не сможет уволиться до срока его истечения? У нас кто-кто кого-то насильно держит на работе? У вас есть такие примеры?**

– Во всем мире срочные трудовые контракты являются исключением. В Европе система таких контрактов предполагает существенное ухудшение правового положения работника, потому что он не может уволиться. Поэтому в цивилизованных странах, когда наиболее ценным сотрудникам наниматель предлагает перейти на срочный контракт, то сразу же на период контракта предлагает ему зарплату в 2–3 раза выше. В Европе посредством срочных контрактов наняты на работу 20–25 процентов работников, в Беларуси – 70 процентов!

В нашей стране еще в 1999 году президентским декретом №29 почти всех работников перевели на контрактную систему, даже тех, у которых характер работы постоянный – токарей, слесарей, уборщиков и т.д. Но если все эти 20 лет мы могли говорить, что эта мера временная, что президентский декрет противоречит Трудовому кодексу, в котором есть запись, запрещающая переводить на срочные трудовые контракты работников, у которых постоянный характер работы, то теперь уже это закреплено не на уровне декрета, а на уровне Трудового кодекса. Беларусь становится страной временной занятости.

**– И если с работником на 5 лет заключен трудовой контракт, он не имеет права уволиться?**

– Получается так. Он не может уволиться, потому что с ним заключен контракт, и он по сути является собственником государства, потому что у нас государственная экономика.

**– А если наниматель не против увольнения?**

– В таком случае он, конечно, уволится. Но мы сейчас говорим о норме закона, а она не дает возможности увольняться. Это и называется существенным ухудшением правового положения работника.

**– Часто такие ситуации возникают?**

– Сплошь и рядом. Люди находят лучшее место работы, хотят уволиться, а их не увольняют, требуют доработать по контракту. Доходит до того, что работник демонстративно нарушает трудовую дисциплину, например, прогуливает работу, а его все равно не увольняют. Это уже само по себе говорит, что создана абсурдная система. Так не должно быть.

В Беларуси очень многие работники увольняются в связи с истечением срока контракта. Система, я бы сказал, современного крепостного права действует эффективно.

**– Александр Ильич, в законе появилась абсолютно новая норма: нанимателю позволено временно переводить работника на другую работу на срок до шести месяцев, причем даже к другому нанимателю. Это что такое?**

– Это «заемный» труд. Это явление получило широкое распространение в странах постсоветского пространства, особенно в Украине, Казахстане, в России. И все эти годы наши власти критиковали Россию за это. Наша пропаганда постоянно твердила, что такая норма может существовать где угодно, только не у нас, в Беларуси никогда не будут торговать людьми, у нас никогда не будет места заемному труду, потому что у нас экономика государственная, и сфера трудовых отношений жестко контролируется государством. Однако норма появилась!

Но пока кроме записи нет ничего. Должны быть четкие понятия, и что такое передача работника, и как она должна происходить. Потому что я предвижу, например, такие ситуации: на предприятии нет работы и вместо того, чтобы уволить работника по соглашению сторон с выходным пособием (а это его три средние зарплаты), наниматель передает человека на полгода другому нанимателю.

**– Но что-то же есть положительное в новом Трудовом кодексе,** ведь **внесено 40 поправок в 30 статей?! Отцам вот разрешили брать 14 дней отпуска, когда в семье рождается ребенок, фрилансеры теперь смогут иметь нескольких работодателей, а также оплачиваемый отпуск и лист нетрудоспособности…**

– Дело в том, что самостоятельно разрабатывались два законопроекта –имплементация (перенесение) в Трудовой кодекс декретов президента №29 (о контрактной системе) и №5 (о усилении дисциплины и наказании на ее нарушения на предприятиях) и уже сами поправки в Трудовой кодекс. Эти изменения, поправки назрели давно, потому что Трудовой кодекс в Беларуси корректировался в начале 2000-х. А вот по поводу имплементации не было согласия даже во властных структурах. В 2016 году Палата представителей готова была эти нормы декрета перенести в кодекс, но тогда мы, Международная организация труда их жестко критиковали, и они не стали принимать. А сейчас власти нашли выход: соединили оба законопроекта и стали выпячивать те изменения, которые надо было вносить, и которые действительно разумные. Например, дистанционный труд, отпуска для отцов. Хотя что касается отпуска – это много шума из ничего, потому что эти отпуска неоплачиваемые. У нас и сегодня отец имеет право на отпуск за свой счет, когда в семье рождается ребенок.

**– Александр Ильич, по-вашему, условия работников ухудшились. Но почему люди никак на это не реагируют? На площадь никто не выходит. Да что на площадь, в социальных сетях даже нет активного обсуждения. Получается, белорусов все устраивает…**

– Люди не совсем вникают в суть проблемы. 20 лет почти все работают по контрактам: как было, так вроде все и осталось. Власти этим и воспользовались. И это еще более отвратительным делает поведение тех людей, которые готовили этот документ.

**– Но я слышала мнения простых людей, что 5-летние контракты – это здорово, это уверенность, что у тебя и завтра будет работа и тебя не выкинут через год на улицу. У нас по официальной статистике, например, в промышленном секторе 64% контрактов заключались на один год и людей это возмущало.**

– Я в таких случаях говорю, что это рассуждения сродни тем, что усовершенствовали гильотину, потому что контракт висит мечом над работником. Кроме того, за пять лет предприятие может впасть в рецессию, зарплаты снизятся, а человек не сможет уволиться без согласия нанимателя… Мы живем во время глобализации, что предполагает мобильность рабочей силы. Работники должны мобильно реагировать на развитие экономики страны, а у нас людей хотят заковать пятилетними контрактами…

**Мария ЭЙСМОНТ.**

АЛЬТЕРНАТИВНЫЙ ВЗГЛЯД

## Гарри ПОГОНЯЙЛО: «У нас нет крепостного права!»

Председатель юридической комиссии Белорусского Хельсинкского комитета **Гарри Погоняйло** не согласен с некоторыми оценками Александра Ярошука. В частности, с утверждением последнего, что новый Трудовой кодекс лишил работников права увольняться по собственному желанию.



– Общий, основополагающий принцип в Гражданском праве, в Трудовом праве – свобода заключения договоров, – поясняет Гарри Петрович. – Работник соглашается на те условия труда, которые предлагает наниматель, и соответственно увольняется, тоже имея в виду свободу расторжения этого договора, но чтобы не нарушались ни его права, ни права нанимателя. Если они с нанимателем не достигли договоренности, тот не хочет увольнять работника по обоюдному согласию до истечения срока окончания трудового договора, работник за месяц предупреждает его о необходимости уволиться по семейным или каким-то иным обстоятельствам, то есть прекратить срочный трудовой договор. У нанимателя таким образом есть месячный срок заместить увольняющегося новым работником. Если наниматель отказывается расторгать договор и в этом случае, работник может обращаться в суд – конфликт должен быть исчерпан.

В Беларуси никогда не было и не может быть крепостного права. Никто не вводил Юрьев день, что только после окончания срока срочного договора работник может уволиться!

**– Получается, независимые профсоюзы несправедливо критикуют контрактную систему? И то, что сроки трудовых отношений увеличили – это даже плюс, раньше вышеупомянутые нормы критиковали из-за того, что годовые контракты делали работников зависимыми, и власти зачастую использовали контрактную систему для политических репрессий.**

– Да, срочный трудовой договор расторгается только на основании того, что он закончился. Наниматель не обязан объяснять причину непродления контракта. Хочет работник пролонгировать этот договор, остаться на работе – он может об этом заявить, но решение остается за нанимателем. И это в какой-то мере ухудшает правовое положение работника. Но нельзя говорить, что у нас крепостное право.

СУД ДЫ СПРАВА

## Заплаціць 8 тысяч 13 рублёў!

*Арганізатары Дня Волі прайгралі суд сталічнай міліцыі*

Учора ў судзе Маскоўскага раёна Мінска працягнуўся разгляд іска ГУУС Мінгарвыканкама да заяўнікаў акцыі Дзень Волі ў Кіеўскім скверы з нагоды 101-й гадавіны абвяшчэння БНР – **Юрася Губарэвіча, Вольгі Кавальковай, Мікалая Казлова** і **Ігара Барысава.**

На судовым пасяджэнні прысутнічаў толькі адзін з заяўнікаў Дня Волі - старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігар Барысаў** ды некалькі праваабаронцаў.

Суддзя па хадайніцтве Барысава дапытала сведку – **Віталя Рымашэўскага**, а таксама далучыла да справы дакументы, якія даказваюць, што арганізатары ўжо пакараны на суму 30 б.в. кожны за парушэнне адміністрацыйнага артыкула. Таксама ў судзе быў дапрошаны старшы інспектар міліцыі **Сяргей Астафьеў**, які заявіў, што ўдзельнікаў сталічнай акцыі на Дзень Волі было каля 1400 чалавек.

У выніку суддзя **Вольга Гусакова** прыняла рашэнне адмовіць у задавальненні іска Барысава і іншых арганізатараў Дня Волі аб скасаванні дамовы з міліцыяй, а іскавыя патрабаванні ГУУС Мінгарвыканкама задаволіць у поўным аб’ёме.

ДЫСКУСІЯ

*Пасля абвяшчэння мяркуемай даты галасавання за дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якое, хутчэй за ўсё, будзе прызначана на 17 лістапада, варта нарэшце зрабіць тое, што трэба было зрабіць ужо даўно, – абмеркаваць і прыняць рашэнне, ці варта апазіцыі ўдзельнічаць у гэтым працэсе і, калі так, дык на якіх умовах.*

*Адным з радыкальных праціўнікаў удзелу выступае вядомы гісторык, літаратуразнаўца, а таксама вядомы дзеяч Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі* ***Анатоль Сідарэвіч****, які апублікаваў сваё меркаванне ў інтэрнэце. Яму сёння адказвае палітычны аглядальнік, доктар філалагічных навук* ***Аляксандр Фядута****.*

*Рэдакцыя спадзяецца, што ў распачатай дыскусіі возьмуць удзел і іншыя грамадскія і палітычныя дзеячы і аналітыкі, прадстаўнікі дзяржаўных органаў. Старонкі «Народнай Волі» адкрыты для ўсіх.*

# Ці рэабілітуе сябе апазіцыя?

Галоўны выбаршчык Беларусі і незаменная лічыльніца галасоў агучылі прыкладныя даты «выбараў» у Палату прадстаўнікоў. Яны лічаць, што «выбары» павінны адбыцца сёлета ў лістападзе.

Нагадаю адзін факт. Належным чынам ацаніўшы тое, што адбылося 24 лістапада 1996 г., дэмакратычная апазіцыя клялася і заракалася, што яна не прызнае і не прызнае новаўтвораны орган заканадаўчай улады. У 2000 годзе на Кангрэсе дэмакратычных сіл была прынята рэзалюцыя (ці пастанова? – дакладна не памятаю) пра байкот выбараў. Саму Палату празвалі палаткай.

Нагадаю другі факт. У 2000 г. у стане дэмапазіцыі знайшліся штрэйкбрэхеры. Гэта Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада). Калі быць карэктным, то IV з'езд БСДП прыняў пастанову аб няўдзеле ў выбарах. Але немцы (кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску Ганс Георг Вік і пасол Германіі ў Беларусі Хорст Вінкельман) угаварылі тагачаснага старшыню партыі Мікалая Статкевіча плюнуць на пастановы Кангрэса і З'езда. Яны нібыта дамовіліся, што апазіцыі, у тым ліку Статкевічу, будзе выдзелена ў палатцы некалькі месцаў.

Немцы правільна выбралі галоўнага штрэйкбрэхера, бо разгадалі статусную заклапочанасць Статкевіча, які, у адрозненне ад Аляксандра Бухвостава, Сяргея Калякіна, Анатоля Лябедзькі ды іншых дзеячаў апазіцыі, ніколі не быў дэпутатам.

Якімі сродкамі Статкевіч пераканаў большасць Цэнтральнага камітэта БСДП парушыць пастанову партыйнага з'езда, можна здагадацца.

Немцы дапамаглі Лукашэнку ўмацаваць уладу. Праўда, потым, калі выявілася, што Лукашэнка надурыў іх, як шчанят, калі яны пачалі нешта вякаць аб правах чалавека і дэмакратыі, Вік стаў персонай нон грата, а неўзабаве ў Мінску прыкрылі і саму місію АБСЕ. Самым пацешным для мяне быў эпізод з дэпутаткай Бундэстага Утай Цапф. Гэтая сацыял-дэмакратка чамусьці была ўпэўнена, што прасуне дэмакратыю ў Беларусі праз семінары, праз дыялог з палатачнікамі. Колькі ёй ні казалі, што гэта марны занятак, яна стаяла на сваім. І дастаялася. На «выбарах» 2004 года яе выгналі з выбарчага ўчастка ледзь не пад зад. І тады яна закрычала: «Diktatur!»

У 2004 годзе Статкевіч ужо мог, ледзь не захлёбваючыся, казаць, што ягонае і ягоных прыхільнікаў у БСДП штрэйкбрэхерства было слушным. Следам за БСДП у «выбарчым працэсе» ў якасці спарынг-партнёраў улады пачалі ўдзельнічаць і іншыя дэмакратычныя партыі.

Што паўплывала на перамену пазіцыі? Не сакрэт, што на «прасоўванні дэмакратыі» ў Беларусі корміцца процьма розных заходніх інстытуцый (знаўцы кажуць, што да Беларусі даходзіць сама больш 10 працэнтаў выдзеленых сродкаў). Не апошнюю ролю тут адыгрываюць і «калектыўныя немцы», а дакладней тое, што немалая частка палякаў называе Нямецкім Еўрапейскім Саюзам. «Вы кажаце, што выбары ў Беларусі праходзяць з парушэннямі стандартаў АБСЕ, што палатка нелегітымная. А дакажыце гэта», – звярталіся да нашых апазіцыянераў заходнія гуру дэмакратыі. Давесці ж парушэнні выбарчага права, тэзіс аб нелегітымнасці ПП НС апазіцыйныя партыі маглі толькі праз удзел у «выбарчым працэсе». Вось столькі кандыдатаў у дэпутаты вылучылі мы, а вось столькі – праўладныя арганізацыі. Вось такі працэнт нашых вылучэнцаў зарэгістраваны, а вось такі – праўладных. Вось столькі кандыдатаў у выбарчыя камісіі вылучылі мы, а вось столькі – праўладныя арганізацыі. Вось такі працэнт нашых вылучэнцаў стаў сябрамі камісій, а вось такі – праўладных… Інакш даказаць несправядлівасць «выбарчага працэсу» ў Беларусі немагчыма. Гэтак Захад штурхаў дэмакратычную апазіцыю на ўдзел у падтанцоўцы.

Сваімі намаганнямі Захад добра-такі дыскрэдытаваў апазіцыю ў вачах немалой часткі дэмакратычна настроеных грамадзян Беларусі.

Апазіцыя дыскрэдытавала сябе і тым, што патурала сама- і славалюбству асобных дзеячаў у сваіх шэрагах, якім важна было парысавацца. І тым, што, ідучы на павадку ў «калектыўных немцаў», стала вызнаваць алімпійскі прынцып: важна не перамагаць, а ўдзельнічаць. І тым, што ніколі не змагла дамовіцца аб падзеле акруг, аб вылучэнні адзінага кандыдата на пасаду прэзідэнта.

А ў 2010 годзе апазіцыя і наогул стала на шлях падману грамадзян. Маю на ўвазе сцвярджэнні Рыгора Кастусёва, Аляксея Міхалевіча, Віталя Рымашэўскага і Мікалая Статкевіча, што за вылучэнне кожнага з іх кандыдатамі на пасаду прэзідэнта падпісаліся больш за 100 тысяч грамадзян. Сумняваюся, што 100 тысяч подпісаў сабраў і Яраслаў Раманчук. У 2015-м гэтую «тэхналогію» пераняла былая мая аднапартыйка Таццяна Караткевіч, якая таксама нямала папрацавала для дыскрэдытацыі дэмапазіцыі.

Самае ж дно, на якое апазіцыя апусцілася, – гэта прыняцце ў якасці падарунка ад «выканаўчай» улады дэпутацкага мандата ў 2016 годзе.

Нешта падказвае мне, што сёлета па падарунак да галоўнай лічыльніцы галасоў выстраіцца чарга.

Пры гэтым трэба асабліва адзначыць: ні БСДП, ні Аб'яднаная грамадзянская партыя, ні Партыя БНФ, ні іншыя палітычныя арганізацыі нідзе і ніколі не заявілі, што лічаць сваю пазіцыю, занятую ў 1996-м, памылковай. Ва ўсякім разе я пра такую заяву не чуў і не чытаў.

Цяпер, калі кіраўніцтва амаль усіх апазіцыйных структур памянялася, варта было б, каб БСДП, АГП, Партыя БНФ, а заадно і «Справядлівы свет» паасобку ці супольна абвясцілі пазіцыю сваіх арганізацый, занятую пасля лістападаўскіх падзей 1996-га, памылковай. Выдатна было б, калі б кожная партыя паасобку ці супольна з іншымі другім пунктам запісала вось такое: «Прыняцце Канстытуцыі ў рэдакцыі 1996 года стварыла прававую аснову для дынамічнага развіцця грамадства і дзяржавы, эфектыўнай работы кожнай з галін улады (заканадаўчай, выканаўчай, судовай). Сёння можна з поўнай упэўненасцю сказаць, што Парламент Рэспублікі Беларусь сфарміраваўся як сталы заканадаўчы і прадстаўнічы орган, які заняў належнае месца ў канстытуцыйным механізме нашай дзяржавы» (цытата з афіцыйнага сайта ПП НС). Можна дадаць і трэці пункт: а выбары ў Беларусі празрыстыя і справядлівыя, іх вынікі кожны раз на 100 працэнтаў адлюстроўваюць волю народа.

Цяжка прыняць такую пастанову? Нельга? А парушаць, не адмяніўшы іх, ранейшыя клятвы, абяцанні і заракання можна?

Сёлета ў апазіцыі з'явіўся шанц хоць трохі рэабілітавацца.

Агучаны аптымальны, з гледзішча «выканаўчай» улады, тэрмін так званых парламенцкіх выбараў. Але гэтыя «выбары» – незаконныя, бо супярэчаць Асноўнаму закону, які пад цяперашнюю ўладу і перапісвалі. «Выбары» будуць незаконныя, калі галоўны выбаршчык не распусціць датэрмінова паслухмяную яму ПП НС. А каб распусціць ПП НС, трэба пашукаць нейкія прычыны і зачэпкі, якія нікога, хто надзелены здольнасцю мысліць, не пераканаюць, бо, паўтараю, ПП НС, асабовы склад якой быў вядомы да дня галасавання, – цалкам паслухмяны інструмент у руках «выканаўчай» улады. Хто з сябраў апазіцыйных партый верыць у рэальны падзел улады ў нашай краіне і ў магчымасць рэальнага канфлікту паміж галінамі ўлады?

Паслухмяная ПП НС можа і самараспусціцца, калі тыя, хто ў ёй засядае, заявяць аб складанні сваіх паўнамоцтваў. Але гэта будзе нешта нечуванае ў найноўшай гісторыі.

«Нармальныя» выбары павінны адбыцца не пазней як у верасні 2020 года, калі заканчваецца тэрмін паўнамоцтваў паслухмянай ПП НС. І ўдзел дэмакратычнай апазіцыі ў выбарах, якія будуць прызначаны насуперак Асноўнаму закону, – гэта ўдзел у беззаконні.



Фото nn.by

Я не заклікаю да байкоту. Байкот – гэта актыўная акцыя, за байкот трэба агітаваць. Зрэшты, каго агітаваць? Большасць выбаршчыкаў ужо даўно не ходзіць на выбарчыя ўчасткі. І гэта выдатна ведае кантора спадарыні Ярмошынай, якая вось ужо колькі гадоў рассылае нам эсэмэскі з заклікам ісці на выбарчыя ўчасткі.

Атрымліваецца цікавая сітуацыя: грамадзяне не ідуць на выбарчыя ўчасткі, а апазіцыя, як і вышэйпамянёная кантора, выступае ў ролі зазывалы. Такая сітуацыя называецца сімфоніяй. Сімфонія ўлады і апазіцыі.

Я не заклікаю да байкоту. Я заклікаю да няўдзелу ў «выбарах». У такім разе ніводная палітычная арганізацыя, якая лічыць сябе прыхільніцай прававой дзяржавы, не вылучае сваіх кандыдатаў у дэпутаты. І не трэба паддавацца ціску заходніх гуру дэмакратыі, «калектыўных немцаў». І ціску тых у нас, у Беларусі, хто мае пэўныя выгады ад удзелу апазіцыі ў «выбарчых кампаніях».

Апазіцыі хоць раз за 15 гадоў трэба паказаць, што яна апазіцыя і здольная да рашучых дзеянняў.

Стоячы на пазіцыях прававой дзяржавы, адстойваючы яе прынцыпы, апазіцыя ва ўсякім разе можа вылучыць кандыдатаў у выбарчыя камісіі, накіраваць назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі хоць бы дзеля таго, каб пераканацца, што і гэтым разам у камісіі трапіць мізэрны працэнт яе вылучэнцаў, што назіральнікі па-ранейшаму будуць бачыць не бюлетэні, а азадкі сябраў участковых камісій, што і гэтым разам фрэквенцыя (або яўка выбаршчыкаў па-нашаму) будзе нізкая і – я ўпэўнены ў гэтым – нават ніжэйшая, чым у 2016 годзе.

Каб даказаць недэмакратычнасць «выбарчага працэсу», не абавязкова браць удзел у падтанцоўцы, быць спарынг-партнёрамі праўладных кандыдатаў. Калі ж нехта з апазіцыянераў спадзяецца атрымаць мандат як падарунак «выканаўчай» улады за лаяльнасць, то гэта ўжо не апазіцыянер, і партыя, якая згодна на такі падарунак, – не апазіцыйная.

***

«Выканаўчая» ўлада зацікаўлена ва ўдзеле апазіцыі ў «выбарчай кампаніі». Вось і нядаўна галоўны выбаршчык прызнаўся, што яму хочацца, каб выбары былі прызнаны легітымнымі. Прызнаныя Захадам, вядома.

«Рэвалюцыйным» учынкам апазіцыі было б, калі б яна заявіла аб сваім няўдзеле ў «выбарчым працэсе», г. зн. аб невылучэнні сваіх кандыдатаў, да таго часу, пакуль яе прадстаўнікі не трапяць у выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў і не атрымаюць магчымасць рэальна назіраць працэс падліку галасоў на выбарчых участках, пакуль не будзе ліквідаваны інстытут пяцідзённага датэрміновага галасавання, пакуль не перастануць ключы ад выбарчых участкаў на ноч аддаваць работнікам міліцыі.

Іншы раз ад тых, хто распінаецца за ўдзел у «выбарчай кампаніі», можна пачуць, што яны, маўляў, атрымліваюць магчымасць «працаваць з людзьмі», выступаць па радыё і тэлебачанні. Быццам з людзьмі не трэба працаваць у іншы час. Але я пра іншае. Аматараў падтанцаваць задавальняюць тыя -наццаць хвілін, якія дае ім «выканаўчая» ўлада. А мне помніцца, што на саміце АБСЕ 1999 г. нехта абяцаў даць апазіцыі 15 працэнтаў эфірнага часу незалежна ад «выбарчых кампаній». Ці памяць падманвае мяне?

Як жа добра было б, калі б свой удзел у «выбарчых кампаніях» апазіцыя абумовіла і правам карыстацца СМІ, на ўтрыманне якіх ідуць грошы ўсіх падаткаплацельшчыкаў, але якія знаходзяцца ў руках адной групы грамадзян.

І яшчэ мяне цікавіць, дакуль апазіцыя будзе згаджацца на ролю разумова адсталых. Я маю на ўвазе інстытут сябраў выбарчых камісій з правам дарадчага голасу.

Калі б апазіцыя абумовіла свой удзел у «выбарчым працэсе» рэальным членствам сваіх прадстаўнікоў у выбарчых камісіях, магчымасцю рэальна сачыць за падлікам галасоў на выбарчых участках, ліквідацыяй інстытута датэрміновага галасавання, магчымасцю карыстацца на першы раз 15 працэнтамі эфірнага часу на радыё і тэлебачанні, доступам да папяровых дзяржаўных СМІ, ліквідацыяй інстытута сябраў выбарчых камісій з правам дарадчага голасу, – гэта быў бы «рэвалюцыйны» ўчынак. Але здзейсніць такі ўчынак можа толькі апазіцыйная апазіцыя. І салідарная.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

# Спадар Сідарэвіч, злезьце з канапы!

Пачну з таго, што мы з Анатолем Міхайлавічам з'яўляемся аднадумцамі ў галоўным – абодва добра разумеем, што ні пра якія свабодныя і дэмакратычныя выбары пры «цараванні» Аляксандра Лукашэнкі і арганізацыі электаральнага працэсу на ўмовах Лідзіі Ярмошынай у Беларусі гаворкі ісці не можа. У рэальнасці ў нас, на жаль, пакуль няма ні свабоды, ні дэмакратыі. І выбары ў гэтых варунках, давайце прама скажам, зводзяцца не да сапраўднага выяўлення волі выбаршчыкаў, а да ў пэўнай ступені абмежавання гэтай волі, да немагчымасці роўнага спаборніцкага доступу розных палітычных груп да прадстаўніцтва на ўсіх узроўнях улады, пачынаючы ад сельскага Савета і заканчваючы парламентам.



Але далей спадар Сідарэвіч, на мой погляд, займае пазіцыю мудраца, які жыве дзе-небудзь у Кітаі часоў вялікага Канфуцыя. І свабоды няма, і магчымасці выбару няма, і Ярмошына з Лукашэнкам бессмяротныя. А таму застаецца толькі адно: сесці на беразе Янцзы і чакаць, калі па ёй праплывуць палітычныя трупы ворагаў. А каб сумленне не надта ўжо грызла і каб захаваць твар у вачах маладога пакалення, можна абумовіць гэту пазіцыю ўласным досведам, а таксама патрабаваннямі да тых, хто іх заведама ніколі не выканае і нават не збіраецца выконваць. Гэта выглядае вельмі прыгожа і годна, а з маральнага пункту гледжання – практычна бездакорна. Пытанне ў тым, што гэта ні да чога не прыводзіць.

У 1996–2000-х гадах такая лінія паводзін – няўдзел у выбарах – мела хаця б падабенства палітычнай пазіцыі. Існаваў прэзідыум Вярхоўнага Савета 13-га склікання – органа, які ўсе краіны, што не прызналі вынікі сумна вядомага рэферэндуму 1996 года канстытуцыйнымі, лічылі цалкам легітымным. І Анатоль Сідарэвіч чэсна пра гэта піша ў сваім маніфесце. Але прайшоў 2000 год, паўнамоцтвы дэпутатаў скончыліся. А жыццё працягвалася. Мы хадзілі па вуліцах і жылі па законах, прынятых органам, легітымнасць якога не прызнавалі. Таму што мы прызнавалі іншае – існаванне суверэннай дзяржавы Рэспубліка Беларусь. А значыць, прызнавалі ўсіх шматлікіх Навумавых, Куляшовых і Шуневічаў, якія кіраваліся законамі, прынятымі (фармальна зацверджанымі) тым органам, які мы не прызнавалі. І «правілы дарожнага руху» выконвалі абсалютна добрасумленна. А калі прытрымлівацца логікі Анатоля Сідарэвіча, маглі б і не выконваць: новую рэдакцыю Канстытуцыі мы ж не прызнавалі, значыць, не прызнавалі і ўсе астатнія акты, працэс прыняцця якіх яна так ці інакш рэгламентавала.

Увогуле, спрэчка гэта – як паleміка Саўкі і Грышкі ў вядомым песенным праекце Лявона Вольскага. Яна бясконцая. Ёсць аргументы і за ўдзел у кампаніі, якую Лукашэнка і Ярмошына называюць выбарамі, і супраць яго. Пазіцыю «супраць» агучыў Анатоль Міхайлавіч. Пазіцыю «за» даводзіцца агучваць мне.

Спадар Сідарэвіч назваў свой маніфест «Ці рэабілітуе сябе апазіцыя?». Давайце абмяркуем, каго ён мае на ўвазе пад апазіцыяй. Калі нас з ім, дык мы ўжо ніяк не апазіцыя. Я – палітычны мамант, ён і зусім палітычны дыназаўр, калі лічыць па ўзросце і стажы ў палітыцы. Паглядзіце, як змяніліся твары партыйных лідараў. Засталіся хіба што Калякін са Статкевічам, і тым хутка, вобразна кажучы, выміраць. Тая апазіцыя, да якой належалі мы з Вамі, Анатоль Міхайлавіч, здрахлела. Мы ўжо не ў стане стаяць у пікетах, раскідваць улёткі і нават збіраць подпісы.

У маніфесце Сідарэвіча правільна сказана пра 2010 год, год калектыўнага падману і самападману, калі апазіцыйным кандыдатам падавалася, што галоўнае – каб нас зарэгістравалі, а ўжо далей яно як-небудзь пойдзе, пакоціцца. А ўменне сабраць подпісы – пытанне прынцыповае. Адзін палітык, шчыры вернік, ледзь не імем Бога пераконваў мяне, што ягоны кандыдат дакладна сабраў свае сто тысяч у 2010 годзе. Можа быць, таму я ніколі не буду галасаваць за гэтага палітыка і іншых буду ад гэтага глупства адгаворваць.

Але праблемы збору подпісаў гэта не вырашае. У мяне няма ўпэўненасці ў тым, што цяперашняя апазіцыя ўвогуле здольна на што-небудзь. Засталіся некалькі рэліктаў з ліку колішняга «Маладога фронту», якія, як Зміцер Дашкевіч, яшчэ помняць, не толькі дзеля чаго варта біцца галавой у сцяну, але і як адносна пісьменна гэта рабіць. Астатнія надта маладыя, у агульнанацыянальных кампаніях не ўдзельнічалі. Максімум – арганізоўвалі шоу да чарговага юбілею БНР. Дзякуй Богу, што яны гэта ўмеюць. Але гэта не палітычныя тэхналогіі.

Я не кажу зараз пра тэлебачанне – у нас ёсць інтэрнэт. Я не кажу пра ўменне звярстаць улётку і выказаць у ёй свае думкі – гэта яны ўмеюць ужо без нас з Вамі. Але трэба і ножкамі навучыцца хадзіць. А для гэтай навукі патрэбна сітуацыя, максімальна набліжаная да баявой.

Канешне, у такой сітуацыі самым выйгрышным крокам на першы погляд можа быць арганізацыя байкоту. Але Анатоль Міхайлавіч правільна заўважае: байкот – гэта актыўнае дзеянне, на якое ў нашых апазіцыянераў проста не хапае штыкоў. А адкуль гэтыя штыкі возьмуцца, калі ўся палітыка ў нашай краіне звялася да чакання палітычнага скону «самі ведаеце каго» і да дыскусій у «тэлебачанні Лябедзькі»? Можна вывезці куды-небудзь 50 маладых людзей, як гэта робіць рух «За Свабоду», і прачытаць ім цудоўныя лекцыі з мэтай павышэння палітычнай пісьменнасці. Але выбары ў нашых умовах, калі асноўная маса незадаволенасці засяроджана ў малых і сярэдніх гарадах, – гэта ніяк не сядзенне на канапе, а хадзьба ножкамі, язда на ровары і трасяніна на рэйсавых аўтобусах, калі ёсць аўтамабіль – на аўтамабілі.

І наша маладое пакаленне гэтага, на жаль, не ўмее. Яно не можа пратварыць свой цудоўны палітычны патэнцыял у тэхналагічную карту ўдзелу ў выбарчай кампаніі. Там жа ўсё будуецца па календары.

Ёсць тэрмін для вылучэння членаў камісій. Так, іх не зацвердзяць. Але трэба ведаць, якія дакументы для гэтага патрабуюцца? Трэба.

Ёсць тэрмін для збору подпісаў. Так, іх забракуюць. Але трэба ўмець сабраць каманду, праінструктаваць зборшчыкаў, навучыць іх размаўляць з людзьмі, нарэшце, паказаць, што ў падпісным лісце запаўняе сам зборшчык, а што – толькі падпісант-выбаршчык? Трэба, без гэтага не абысціся.

І калі гэтаму вучыць моладзь? Калі правяраць, ці засвоілі яны штосьці альбо не на практыцы? Так, падчас кампаніі, якую праводзіць Лідзія Ярмошына. Іншай «баявой абстаноўкі» мы з Вамі арганізаваць не можам.

Так, спадар Сідарэвіч, мы павінны быць чэснымі перад сабой, сябрамі партый, моладдзю і выбаршчыкамі. Мы не павінны хлусіць, што можам атрымаць мандат у абыход спадарыні Ярмошынай. Мы проста павінны прайсці пэўны ўчастак шляху. Як дзіця праходзіць сярэднюю школу.

Як? Проста.

Вылучыце ад партыі 30 кандыдатаў, патлумачыўшы ім іх задачу. Вы ж доўгі час былі адным з вышэйшых кіраўнікоў БСДП, партыйныя кадры ведаеце вельмі добра. Пастаўце галоўнае абмежаванне – не старэй за 30 гадоў. Патлумачце, што і як яны павінны рабіць. Няхай збяруць каманду – кожны на сваёй акрузе, прыкладна 30–40 чалавек. Дапамажыце ім навучыць гэтых маладзёнаў, яшчэ маладзейшых за іх саміх. Будзьце побач як аналітык-кансультант, як паліттэхнолаг. Дапамажыце дамагчыся рэгістрацыі свайго кандыдата (кандыдатаў). Парайце, як сплanаваць агітацыйную кампанію. Няхай яны на самай справе ходзяць па акругах, сустракаюцца з людзьмі, тлумачаць пазіцыю партыі ў прыватнасці і апазіцыі ўвогуле. Няхай спазнаюць рэальныя праблемы, якія хвалююць людзей. І няхай чэсна гавораць:

– Паважаныя выбаршчыкі! Мы зробім усё, каб пра вашы праблемы даведаліся. Але за дзесяць дзён да дня галасавання мы здымемся. Таму што выбараў у нашай краіне няма. Свабодных, дэмакратычных выбараў.

І пасля гэтага – з агнявымі вачыма і чыстымі рукамі – на арганізацыю поўнамаштабнага кантролю па 18 акругах. Каб давесці ўжо ўсяму свету, што выбараў на самай справе не было.

Не лічыце выбаршчыка ідыётам. Ён зразумее гэту пазіцыю. І вось гэта будзе сапраўднай рэабілітацыяй нашай апазіцыі. Рэабілітацыяй у дзеянні. Як рэабілітуецца хворы, які доўгія гады быў прыкаваны да шпітальнага ложка. Устаў на ногі – і ідзі!

Пытанне ў іншым. Вы, Анатоль Міхайлавіч, з усёй Вашай несумненнай прынцыповасцю зможаце знайсці 30 сябраў сваёй партыі адпаведнага ўзросту і свядомасці, якія без фінансавання прайшлі б гэты шлях і зняліся б у выпадку рэгістрацыі?

Баюся, што не знойдзеце. Лёгка ківаць на кандыдатаў у прэзідэнты 2010 года, большасці якіх не хапіла сумлення прызнацца, што іх зарэгістравалі пры несабраных подпісах. Чалавек слабы, і кандыдаты ў прэзідэнты не выключэнне. А пасля рэгістрацыі ўсе яны – і кандыдаты ў прэзідэнты, і кандыдаты ў дэпутаты – робяцца яшчэ слабей. Зняць сваю кандыдатуру з выбараў пасля рэгістрацыі можа толькі вельмі моцны чалавек. Я знаў такога аднаго – Сямёна Домаша. Але ён подпісы сабраў.

А ўсё астатняе, пра што піша спадар Сідарэвіч, цудоўны чалавек і гарачы сацыял-дэмакрат, я цалкам падзяляю. Мы абодва ведаем, што ён мае рацыю. І з усведамленнем гэтага адыдзем у іншы палітычны свет, так і не здолеўшы прапанаваць ніякай рэальнай альтэрнатывы ўдзелу ў прадугледжанай законам электаральнай кампаніі.

Хаця, здаецца, я прапанаваў. Альбо не атрымалася?

Разлічваю, што і пазіцыя Сідарэвіча, і мая выклічуць водгукі ў шырокай грамадскасці.

**Аляксандр ФЯДУТА.**

